Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 35. Вільня, Чацьвер 28 Кастрычніка 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месядау 4 зал., на год — 8 зал.

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадной палосцы. Жадаючыя іншых абвестан павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Політыка польскага ўраду.

Надовячы ў Львове разьляглiся стрэлы; нявядомыя людзі забілі куратара Львоўскага школьнага вокругу. Следзтва дагэтуль не знайшло вінных але эндэцкая ўся прэса вініць усё Украінскае грамадзянства, быццам яго віна тым, што нехта забіў куратара. Мы ня хочам сёдня разглядаць пытаньня хто забіў? Гэта пакажа судовае следзтва, мы хочам зьвярнуць увагу на тое, што палітыка школьных польскіх дагэтульшніх урадаў давяла ўкраінскую й беларускую школу да чыстага зьнiстожаньня, гэта факт. Львоўскі куратар, так, як і усе іншыя із здаволеньнем душыў украінскую школу, і мусіць у эндэцыі ня чыстае сумленьне, бо сьледзтва яшчэ нічога не паказала, а эндэцкая прэса ўжо абвініла украінскае грамадзянства ў убіўстве польскага куратара. Заўсёды кажуць, што „хто парася ўкраў, таму ў вушох пішчыць“. Віньнік першы стараецца знайсьці іншага віньніка. Таксама й эндэцкая прэса, стараецца знайсьці віньніка ў убіўстве, тады, калі сама пхала куратара да ўціскаў украінскіх школаў. Ніхто іншы, як польскія панскія партыі абвясьцілі і павялі адкрытую барацьбу з усім, што беларускае ёсьць, літоўскае і ўкраінскае. Усе польскія ўрады душылі і дагэтуль душаць беларускую, літоўскую і ўкраінскую школу. Цяперашні ўрад павёў далей палітыку ўціску нацыянальных меншасьцяў. Беларускае школства фактычна ўрад ужо зьліквідаваў. Усе апошнія ўрадовыя беларускія школы перайначаны на польскія школы, пад маскай утраквістычных школаў. Беларускім культурным арганізацыям немагчыма адчыніць ніводную беларускую школу. Заявы, што паданы былі на сёлетні школьны год на прыватныя беларускія школы, усе разьвязаны адмоўна, або зусім не разьвязаны (няма жаднага адказу). Яшчэ быццам для іроніі некаторыя куратары прысылаюць концэсію на прыватныя беларускія школы, але з засьцярогай такой: „Адначасна куратория зазначае, што навуку ў школе можна пачаць пасьля зацьверджаньня павятовым інспэктарам вучыцеля“. А інспэктар із свайго боку піша, што прадстаўлены кандыдат за вучыцеля „ня можа быць зацьверджаны дзеля нястачы кваліфікацыяў“. Вось дык хітра прыдумалі, як адчапіцца ад беларускай школы. Адзін дае концэсію, а другі не зацьвярджае вучыцеля, і такім парадкам, як няма беларускай школы, дык няма.

Што-ж гэта за мудрая „кваліфікацыя“, якой дамагаецца школьны інспэктар? На гэта дае адказ адзін інспэктар з Віленшчыны. Ён піша, што ад 1.II. сёл. г. на вучыцельскія пасады ў публічных пачатковых школах могуць быць прыняты кандыдаты, што маюць поўную вучыцельскую кваліфікацыю, а таксама асобы, што скончылі ўрадовыя гімназіі, або з правамі публічнасьці. Гэта датычыць і прыватных беларускіх школаў. Неяк дзіўна выглядае гэты адказ, калі, якраз ніводзін беларускі вучыцель з поўнымі кваліфікацыямі дагэтуль ня зацьверджаецца вучыцелям беларускай прыватнай школы. Бо якой лепшай кваліфікацыі трэба ад вучыцеля, як вучыцельская сэмінарыя? Дык людзі, якія скончылі вучыцельскія сэмінарыі і маюць практыку, калі толькі яны хочуць працаваць у беларускай школе, то тады ня маюць кваліфікацыі, а калі ў польскай, то тады лічуцца, што маюць кваліфікацыю. Вось як выкручуюцца польскія інспэктары каб недапусьціць да паўстаньня беларускае школы!

Гэтакая самая палітыка вядзецца і ў адносінах да літоўскіх і ўкраінскіх школаў. Да гэтага пхнуць польскую адміністрацыю польскія эндэцкія газэты і панскія партыі. Праводзячы гэтую палітыку львоўскі куратар зьгінуў, трагічнай сьмерцяй. Ці ягоная сьмерць будзе сыгналам для ўрадовых кругоў, каб нарэсьце зразумелі яны, што так, як было, далей быць ня можа? Адносіны між Беларусамі, Ліцьвінамі і Украінцамі, з аднаго боку, і польскім урадам—з другога, даведзены ўжо да кульмінацыйнага пункту.

Уважаю, як павінен уздрыгнуцца кожны сумленны Паляк, што ў „вольнай“ Рэчыпаспалітай дайшло да ўбіўства не губарнатара а куратара! Над гэтым пара задумацца.

## Нашая праграма.

Праграма Беларускага Сялянскага Саюзу ўжо была друкавана ў газэце, а цяпер прыступаем да падрабязнага выясьненьня яе.

### I. Самастанаўленьне народаў.

Цяпер, пасьля апошняй эўропэйскай вайны, на ўсім сьвеце ёсьць 68 незалежных дзяржаваў. Хаця лічба гэта даволі і паказная, аднак не абыймае яна ўсіх народаў; шмат народаў у граніцах гэтых 68 незалежных дзяржаваў маюць пэўную сваю аўтаномію, узноў шмат народаў ня маюць ня толькі свайго самаўраду, але яшчэ агранічаны ў правох, і часам бываюць на'т уцісканымі праз пануючую нацыянальнасьць. Да гэтай апошняй катэгорыі належыць Беларускі Народ. Беларусы, хаця і маюць усе даныя на незалежнасьць дагэтуль зьяўляюцца паднявольным народам. Гэтая паднявольнасьць не аднолькавая ўва ўсіх часьцях Беларусі. Як усім вядома, па Рыскаму трактату Беларусь была падзелена на 3 часткі, на Ўсходнюю Беларусь, што асталася пад Саюзам С. Р. Р., Заходнюю Беларусь, што падпала пад Польшч і частку, што апынулася ў межах Лацьвіі. Апрача гэтага падзелу Усходняя Беларусь яшчэ падзеляна на 2 часткі, адну, што называецца Беларускай Радавай Рэспублікай і другую частку, што апынулася за межамі БРР, якая належыць да Расейскай Сац. Фэдэр. Рад. Рэспублікі.

Такім чынам маем, што Беларускі Народ быў падзелены ўладай сільных аж на чатыры часьці. Найбольшымі па абшару і ліку насяленьня зьяўляюцца Радавая Беларусь і Заходняя Беларусь, што пад Польшчай.

Жыцьцё Беларусаў ува ўсіх частках, хаця і розьніцца між сабой, але мае той супольны характар, што нідзе Беларусы не зьяўляюцца незалежнымі—самастойнымі. Гэтая залежнасьць або падняволенасьць у кожнай частцы выглядае інакш.

Фармальна-юрыдычна Беларусы Меншчыны, Магілёўшчыны і Віцябшчыны (выключаючы частку, што пад РСФСР) маюць сваю незалежную дзяржаву Радавую Беларусь, аднак фактычная ўлада ў Радавай Беларусі належыць да Масквы, якая камандуе ў Менску праз сваіх людзёў; ня гледзячы на гэта ў Рад. Беларусі Беларусы маюць усе культурныя правы, і сьмела могуць лічыць сябе Беларусамі, адкрываць свае школы, друкаваць беларускія кніжкі, займацца культурна-асьветнай працай. Аднак вельмі шыбка разьвіваць гэту працу ня могуць, бо скора будуць ахрышчаны „шовіністымі-нацыяналістымі“, за якімі будуць сачыць агенты галоўнай палітычнай управы, якія найчасьцей набраны з асоб польскай нацыянальнасьці. Побач з гэтым, калі ходзіць аб беларускае сялянства, то нам трудна пачуць яго шчыры і адважны голас на пытаньне ці добра яму жывецца? На колькі нам вядома прынцыпова ідэолёгія беларускага селяніна не прызнае комуны. Сяляне хочуць здабываць сабе зямлю на ўласнасьць і быць поўнымі гаспадарамі ў сваёй хаце і на сваёй зямлі. Супроць гэтай індывідуальнай свабоды і поўнай самастойнасьці гаспадара-селяніна стаяць радавыя доктрыны, якія стараюцца забіць усялякую індывідуальнасьць і падчыніць псыхіку і дзеяньні грамадзянства ўладзе радавых устаноў. Гэтая супярэчнасьць між ідэолёгіяй селяніна-ўласьніка і навуковай арганізацыяй дзяржавы па спосабу комунальнаму-колектыўнаму не дaець селяніну багацець, інтэнсыўна папраўляць сваю гаспадарку.

Калі ходзе аб Усходнюю Беларусь, што пад Рас. Саюз. Фэдар. Рад. Рэсп., то гэта частка астаўлена на поўную русыфікацыю, Беларусы павінны ўчыць сваіх дзетак у расейскай мове, чытаць газэты парасейску, гутарыць у радавых установах парасейску. Соцыяльнае іх становішча такое, як у Радавай Беларусі. Ня жывецца ім там вельмі добра, калі змушаны яны выезджаць у Сібір. Цяпер у Сібіры налічываецца 1 міліён Беларусаў. Найбольш эміґравалі Беларусы ў Сібір у 1922—23 годзе, калі на Беларусь прыпадала 40% усей эміграцыі з усяго Саюзу Сац. Рад. Рэсп.

Найменшая частка Беларусі, што апынулася пад Лацьвіяй фактычна можа зьяўляецца найшчасьлівейшай. Лацьвійскі ўрад калі не споўнеў усяго, чаго дамагаюцца Беларусы, то ўсёж-такі культурна-асьветная праца ідзець там даволі пэўным, хоць малым крокам. Гаспадарчае палажэньне Лацьвіі не зусім кепскае, сяляне маюць запэўнены збыт для земляробскіх прадуктаў і шыбка паляпшаюць земляробскую культуру. Аднак зямля абшарнікоў пераходзіць там у рукі Латышоў.

Пераходзячы цяпер да Заходняй Беларусі, дзе жывець каля 2½ міліёнаў Беларусаў, з вялікай прыкрасьцяй павінны сьцьвярдзіць, што найгорш жывецца Беларусам пад Польшчай. Маем тут палітычны, гаспадарчы і культуральны ўціск. Быў час калі саджалі ў вастрог толькі за тое, што селянін выпісываў беларускую газэту, галасаваў, або агітаваў за свой спісак № 16. Ніхто з Беларусаў ня мае ні ўрадавай, ні самаўрадавай пасады, інтэлігенцыя часткай вызміґравала, часткай узялася за фізычную працу, а часткай вымярла з голаду.

Беларускіх ані ўрадовых ані пачатковых школаў зусім няма. Есьць чатыры прыватныя гімназіі, якія ледзь цягнуць сваё істнаваньне, бо ўрад ня толькі не дае субсыдыяў, але яшчэ ставіць розныя перашкоды. Дазволу на прыватныя беларускія школы не даюць, а дзяцей пад страхам штрафу і адседкі змушаюць хадзіць у польскія школы. Сялянства, дзякуючы агульна

## У восенскі вечар.

Віхор бурны, васеньні, ільдзісты
За вакном ўсьцяж жудасна шуміць,
І халоднымі каплямі дожджу
У шыбы нам стукаціць... стукаціць...

Базылішкам із старае байкі
Глядзіць ў вокны панурая ноч;
І страшэнныя нейкіясь казкі
Шапаціць нам галінаў расточ.

Але ў нашай блакітнай сыпальні
Цішыня і лязурная- мгла...
Із пад столі лямпіон ор'ентальны
Сочыць ветла патокі сьвятла...

Кругом ўтульна, зацішна і змрочна,
У паветры — парфум тонкі пах,
Па кутках нейкісь цені урочны...
Бэкліна абразы на сьцянах...

На кушэтцы, прытуліўшысь шчыльна,
Мы з каханаю доўга сядзём,
І пад сьпэў патэфона умільны
У камін — лятуцея — глядзём...

Й быццам ночы панурай на зайздрасьць—
Сьнём крыштальна-лілейныя сны,
А ў душы — вялікодная радасьць!
А ў душы — лесу шум веснавы!...

Перад гэтак магутным каханьнем,
— Каб ад бліску яго не памерць, —
Устрымаецца злыбяд навала;
Зыйдзе з шляху на'т бледая сьмерць!...

Дык хай віхар васеньні, ільдзісты
За вакном йшчэ жудасьней шуміць,
Не страшны нам ягоны пагрозы,
Калі ў сэрцы каханьне гарыць!...

*Сьветазар.*

1.Х — 26 г. Вільня.

---

гаспадарчаму крызісу ў Польшчы і цеpазмерна вялікім падаткам дайшло чуць не да торбы. Зямля пераходзіць у рукі асаднікаў і колёнізатараў з Польшчы, двары абмяжоўваюць сэрвітутныя правы сялян. Паліцыя тайная і яўная сядзіць над каркам сялян і страшыць ня толькі пратаколамі але і арыштамі.

Адным словам, страшэнны ўціск з усіх бакоў.

Паўстае пытаньне, чаму ўсё так дзеецца? Адказ ясны, таму, што Беларусы не гаспадары на сваёй зямлі.

Арганізованыя сілы падзялілі нас, Беларусоў, якіх ёсьць 10 міліёнаў, на чатыры часткі і лёгка з кожнай спраўляюцца, бо кожная частка сама-па-сабе ня мае вялікай сілы. Дык ясна, каб Беларусы мелі сілу, трэба перш-на-перш, каб усе часткі былі злучаны ў вадну Беларусь, каб усе сяляне ў Злучанай Беларусі былі арганізаваны ў адну сваю Сялянскую Арганізацыю. Такі Сялянскі Саюз будзе мець вялікаю сілу, а сіла здабывае сабе правы, а найбольш правоў будзе тады, калі будзе Незалежная Беларусь. Каб у Незалежнай Беларусі ня трэба было трымаць вялікага войска, якога кошт утрыманьня лажыцца на грамадзян, Беларусь будзе імкнуцца ўтрымаць добрасуседзкія адносіны з іншымі сумежнымі народамі, імкнучыся да фэдэрацыі (або конфэдэрацыі) з імі. Фэдэрацыя або конфэдэрацыя павінна быць у такой форме, каб Беларусы былі зусім незалежнымі, самі правілі сваім краем, каб сяляне і работнікі былі сапраўднымі гаспадарамі, да якіх належала-б і ўлада. Дарога да гэтай незалежнасьці злучаных беларускіх зямель ідзець праз зьдзейсьненьне права на самастанаўленьне народаў. Гэтае права было прызнана некаторымі дзяржавамі ў часе апошняй эўропэйскай вайны, але далёка ня ўсім народам удалося здабыць сабе незалежнасьць, бо народы гэтыя былі мала зарганізаваны. Дык прыступайма да арганізацыі сялян, парабкоў, беларускай інтэлігенцыі на грунце сялянскіх клясавых інтэрэсаў і на грунце беларускай народнай культуры. Тады здабудзем сабе незалежнасьць злучаных беларускіх зямель, здабудзем волю, а зь ёй і сваю зямлю.

*А. Саюзьнік.*

(Далей будзе).

---

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаушы дай яе суседу.

---

# Сьвяткаваньне дзесятых угодкаў „Krynicy“.

У нядзелю 24 кастрычніка было сьвяткаваньне дзесятых угодкаў „Krynicy“. На сьвята зьехаліся ў значнай лічбе корэспондэнты й супрацоўнікі „Biel. Krynicy“ з провінцыі. На ўгодкі зьявілася й крыху праваслаўных супрацоўнікоў „Biel. Krynicy“, зь якіх адзін быў пасьлей абраны ў Камітэт. Сьвяткаваньне было ў гасподзе Рэдакцыі „Biel. Krynicy“, у каторай ледзь маглі стаўпіцца ўсе ўчасьнікі.

Самое сьвяткаваньне было ўвечары, а ўдзень была партыйная нарада. Нарада пачалася ў дванаццаць гадзінаў дня дакладамі зь мясцоў, у якіх прыяжджамыя корэспондэнты й інш. паведамлялі як жывецца на сяле, выказавалі свае пагляды аб тым як мела-б „Biel. Krynica“ пісаці, каб здаволіць мясцовыя патрэбы, як мае быць арганізавана на мясцох праца корэспондэнтаў і чытароў „Biel. Krynicy“ і аб спосабах пашырэньня „Biel. Krynicy“, паміж іншым аб арганізаваньню прадстаўніцтва ейнага на мясцох.

Потым быў разгледжаны і часова прыняты проект програмы Беларускай Хрысьцянскай Дэмократыі і Статут.

Просьле гэтага быў абраны Цэнтральны Комітэт Беларускай Хрысьцянскай Дэмократыі ў гэтакім складзе: 1) Паўла Каруза, 2) кс. пас. Адам Станкевіч, 3) Альбін Стэповіч, 4) Язэп Жук, 5) Баляслаў Грабінскі, 6) Станіслаў Станкевіч, 7) Якім Красоўскі (праваслаўны), 8) Янка Пазьняк, 9) кс. Вінцэнты Гадлеўскі.

Пазьней, (25.Х.) Камітэт арганізаваўся, абраўшы з паміж сябе гэтакі прэзыдыум: старшыня—П. Каруза, віцэ-старшыня—кс. пасол А. Станкевіч, пісар—А. Стэповіч, заступнік пісараў—Язэп Жук і скарбнік—Станіслаў Станкевіч.

У сем гадз. кс. пасол. А. Станкевіч пачаў сьвяткаваньне, прывітаўшы супрацаўнікоў газэты і гасьцей. У сваёй прамове кс. А. Ст. падчыркнуў значэньне беларускай газэты для Беларускага Народу, краю і ўсей людзкасьці.

Адначасна з дзесятымі ўгодкамі „Krynicy“ Беларуская Хрысьцянская Дэмократыя сьвяткавала і 20 ўгодкі ўсяе беларускае прэсы. Дзеля гэтага кс. Б. Гадлеўскі прачытаў рэфэрат, у каторым даў вельмі цікаўны генэтычны начырк развою беларускай прэсы. „Нашаю Долю“ ў 1906 г. ўзрадзіла рэволюцыя, ейная наступніца „Наша Ніва“ ёсьць сынтэзаю заходняга романтызму і ўсходняга народніцтва. У 1907 г. у Пятярбурзе пачала сваё жыцьцё „Krynica“. Генэза „Krynicy“ ёсьць сынтэза романтызму, народніцтва й хрысьцянства. „Вольная Беларусь“ была працягам сынтэзы романтызму й народніцтва.

У часе рэволюцыі белар. інтэлігенцыя спачатку ня верыла, што Беларускі Народ здолее зразумець беларускі рух і пайсьці зь ім, але выступіў сьвядомы беларускі жаўнер; ухапіўшыся за рух, ён сьмела павёў яго ўперад і станоўка гукаў за сабою ўвесь народ. Думкі беларускіх жаўнераў выказавала „Беларуская Рада“.

Як прыйшоў у Менск Я. Пілсудскі, беларускія адраджэнцы тамака шчыра яго віталі і спадзяваліся пры польскай памозе дабіцца незалежнасьці Беларусі. Гэтыя пагляды выказавала вялікая штодзенная газэта „Беларусь“. Але гэта была абмыла—Палякі Беларусам ня думалі памагаць.

„Дзяньніца“ была прадстаўніцай клясава-работніцкіх імкненьняў беларускіх.

Напасьледак у Вільні нарадзілася прэса новага, накшага характару; яна пераканала, што толькі сілай можна здабыць справядлівасьць і да стварэньня гэтае сілы імкнецца.

Цяперака дзяцюцтва ўсяе беларускае прэсы. Кс. В. Г. скончыў свой даклад пажаданьнем, каб уся беларуская прэса стварыла вялікаю сынтэзу беларускага руху.

Далей былы рэдактар „Krynicy“, д-р Б. Туропак прачытаў цікаўны й харошы начырк гісторыі „Krynicy“. Спадзяючыся яго борзда пабачыць надрукаваным, на ім тутака задзержавацца ня будзем.

Просьле гэтага былі прывітальныя прамовы гасьцей, прадстаўленых на сьвяткаваньню.

Ад Палякоў нашага краю прамаўляў грам. Сьвяневіч, каторы сказаў, што ў жылах мясцовых Палякоў і Беларусаў цячэ тая самая кроў. Розьніца толькі ў мове: цяперашнія Палякі — калішнія Беларусы, прынялі польскаю мову, а Беларусы ймкнуцца адрадзіць сваю старую слаўную мінуўшчыню. Просьле гэтакай заявы, што мясцовыя „Палякі“ гэта тыя-ж Беларусы, толькі што этнографічна асыміляваныя ў польскі бок, мы спадзяваліся, што грам. Сьвяневіч зьвернецца да мясцовых Палякоў, каб яны прылучыліся да *актыўнага* жыцьця Беларускага Народу. Тымчасам грам. Сьвяневіч ня быў такім консэквэнтным. Затое ён зьвярнуў увагу на востраю барацьбу паміж Беларусамі й мясцовымі Палякамі і, як на прычыну гэтае барацьбы, указаў на польскі й беларускі нацыяналізм. Нацыяналізм грам. Сьвяневіч разумеў як шовінізм, гэта значыцца як ненавісьць да іншых народаў і раіў яго ўсяляк нішчыць. Усе прысутныя Беларусы былі вельмі зьдзіўленыя, што паважаны аратар знайшоў гэтакі нацыяналізм у Беларусаў. І мы мусілі задзержацца даўжэй на гэтай прамове каб з прыкрасьцяй сказаць, што ня было праўды ў яе аўтара. Але, Беларусы маюць нацыяналізм і на'т даволі вялікі, але нацыяналізм абароны, але не захопнасьці, нацыяналізм любасьці свайго роднага, але ня ненавісьці чужога, а процi гэтакага нацыяналізму пэўне-ж грам. Сьвяневіч нічагусенькі нямае. А калі Беларусы й ненавідзяць Палякоў, як тых, што несправядліва да Беларусаў адносяцца, што зьдзекуюцца й перасьледуюць Беларусаў, дык гэта-ж зусім зразумела і жаднага шовінізму ў гэтым нямашака. Няго-ж грам. Сьвяневіч хацеў-бы, каб Беларусы, як ягняткі, наперад выбачалі ўсё сваім шкоднікам-непрыяцелям? І ці сам грам. Сьвяневіч любіць і ня мае ненавісьці да ўсялякага зла й злачынства? І ці ў тым наш шовінізм, што мы крычым, як нам, бітым, баліць?

Грам. Людвік Абрамовіч, вядомы шчыры прадстаўнік краёвых патрэбаў, падчыркнуў у сваёй прамове, што Беларусы й тутэйшыя Палякі псыхолёгічна ня розьняцца, а толькі розьняцца моваю. Мы із свайго боку да гэтага далі-б, што гэта значыць ні што іншае як тое, што тутэйшыя Палякі маюць беларускаю псыхіку, што яны сполёнізаваныя Беларусы.

Ад Ліцьвіноў прамаўляў грам. Велецкі, каторы ў харошай прамове пабеларуску а выказаў зычэньні Беларусам ад братняга літоўскага народу.

Мастак грам. Я. Драздовіч падараваў рэдакцыі „Krynicy“ на памятку свае абразы: беларускі селянін з натуры і кляштар у Засьвіры, дзе жыў і тварыў нябошчык Казімір Сваяк.

Далей прамаўлялі работнік зь Вільні грам. Я. Туркевіч, пасол Ф. Ярэміч ад Беларускага Сялянскага Саюзу, грам. Більдзюкевіч ад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, грам. Раман Плаўскі ад складальнікаў „Krynicy“ і інш. Былі прачытаны прывітальныя тэлеграмы й лісты: ад Славянскай Кірыла-Мэтодаўскай Лігі Студэнскай у Празе (пачэску), ад сэн. Крыжаноўскага, ад Арганізацыі Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе, ад Радашкаўскага Адзьдзелу Беларускага Інстытуту Гасп. й Культуры, ад Беларускіх Студэнтаў з Рыму, ад Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (АБСА) ў Празе і інш.

На пасьледак мяшаны беларускі хор пад загадам А. Стэповіча добра прапяяў сьцяг песьняў, зь якіх 3 народныя беларускія, адна кампазыцыя Янсэна і адна з твораў (тымчасам нявядомага аўтара), прысланых у форме гімну на конкурс Бел. Інстытуту Гаспадаркі й Культуры.

Між песьнямі былі прыгожа прадэклямаваны П. Карузай вершы К. Сваяка.

Просьле гэтага арганізатары сьвяткаваньня папрасілі ўсіх сьвяткавальнікаў угодкаў на вячэру-часьць. Тутака таксама пяялі й дэклямавалі разам і паасобку і чуліся аднэй беларускай радзімаю навет бяз розьніцы партыяў і кірункаў. Гэтаю атмосфэру беларускае свайні-радзімасьці аддемілі ў сваіх разьвітальных прамовах грам. А. Зянюк, Л. Абрамовіч і П. Чарняўскі із Сьвянцяншчыны. *В. П.*

---

## Пішэце ў „Сялянскую Ніву“

аб усім, што вам баліць і што вам дорага: аб зьдзеках і крыўдах дазнаваных ад адміністрацыі і іншых, аб зямлі, аб беларускай сьведамасьці, аб асьвеце (школы і інш.), аб войтах, валасных радах і паветавых соймiках, пішэце аб добрых учынках, каб людзі зь іх вучыліся, і аб благіх, каб адхінуць ад благога.

Пішэце ясна і каротка пяром на адным баку паперы.

Пісаць трэба праўду. Хто ня хоча, каб ведалі яго праўдзівае прозьвішча, можа падпісавацца прозьвішчам выдуманым (мянюшкай), а побач з гэтым напісаць толькі першы раз сваё праўдзівае прозьвішча і адрэс для ведама рэдакцыі. Рэдакцыя сваіх корэспандэнтаў нікому не выдае.

Помнеце, што «Сял. Ніва» ёсьць газэтай усіх Вас, а дзеля гэтага жыцьцё кожнага вашага кутка мае адбівацца ў ёй як люстры.

